ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 18 4 мая 1995 г. Выдаецца з 1955 г.
(2420) Цана 100 рублёў.

# МАЕ ДЗЯДЫ І РАДАЎНІЦЫ

## РЭКВІЕМ ПА ДАРАГІХ І НЕЗАБЫЎНЫХ

Зранку ў хаце вышаравана падлога, пасланы саматканыя палавікі, усе ходзяць і гавораць сціішана, без дай прычыны не бразнуць дзвярыма, патэльняю ці засланкаю. У хату ўвайшла таямнічая ўрачыстасць.

Стол засланы кужэльным абрусам, пасярэдзіне -- талерка з сытою. Не ведаеце, што гэта такое? Разведзены мёд з патапцамі белага хлеба, накрышанага маленькімі кубікамі, у місе рысавая ці панцаковая куцця з разынкамі. Садзіцца ўся сям'я. На стол падаюць посныя стравы: грыбны квас з кавалачкамі буракоў; падобныя на пяльмені "вушкі", начыненыя адвараньімі грыбамі з цыбуляю, зарумяненыя на патэльні ў пахкім ільняным ці канапляным алеі, смажаную ці фаршыраваную рыбу, узвар з сушаных груш і сліў. Дарослым сямейнікам ставяць па чарачцы гарэлкі і... -- на талеркі нябожчыкам, што адышлі на той свет з нашага роду.

У паўзмроку перад абразамі ў бліщчастых абкладах дрыжыць і гайдаецца святло чырвонай лампадкі і асвятляе круг на беленай століі. Усе ўслед за гаспадаром хрысцяцца, бяруць па лыжачцы сыты, накладваюць у талеркі куццю. Бацька памінае нябожчыкаў. Усе дарослыя глынулі гарэлкі, а я пазіраю на некранутыя чарачкі на пустых талерках, і вярзецца ў слабым святле лампадкі: цень дзеда Парамона, бабы Аксенні, дзядзькі Мікалая, маёй стрыечнай маладзенькай сястры Насці. Павольна закусваюць, а паміж стравамі ўспамінаюць нібыта тут нябачна прысутных дарагіх нябожчыкаў. Да рання перад абразамі мільгае лампадка, пахне воскам ад свечкі, пастаўленае ў шклянку з жытам пасярэдзіне стала. Спрадвек на Дзяды і Радаўніцу людзі з чыстым сумленнем і ўдзячнай памяццю прыгадваюць вобразы, звычкі і добрыя ўчынкі родных і блізкіх, што назаўжды адышлі ў іншы свет. Гавораць паважна і ціха, нібыта іх чуе кожны ўспомнены.

А праз тыдзень пасля Вялікадня -- Радаўніца. Да гэтага жалобна-ўрачыстага свята занятыя веснавымі клопатамі людзі прыхапкамі ўвечары аж да змяркання на кладах абкладаюць дзёрнам магілы, зверху прысыпаюць пясочкам, зялёнымі скочкамі высаджваюць крыжы, счышчаюць іржу з агароджаў і фарбуюць балясы, з дубовых крыжоў саскрабаюць сівы лішайнік, падфарбоўваюць надпісы і эпітафіі на каменных помніках. І так да самае Радаўніцы. І ўсе гэтыя дні ў памяці ажываюць дарагія навекі заснулыя родныя.

Колісь на кожных кладах стаяла капліччка -- маленькая цэркаўка з іканастасам, абразамі, пратэсамі, падсвечнікамі, аналоем і панікадзілам. У капліцы часта адпявалі нябожчыкаў. На Радаўніцу ў жалобных рызах святары адпраўлялі паніхіды "за ўпакой рабоў Божых". У кожнай сям'і была "памінальніца" -- кніжачка ў аксамітнай вокладцы сіняга ці фіялетавага колеру з пазалочаным крыжыкам зверху. У сярэдзіне -- цубкія старонкі "за ўпакой" і ў другой палове "за здравія". У святы "памінальніцы" з упісанымі ў іх імёнамі здавалі царкоўнаму старасту, кідалі некалькі манет у скарбонку, і ў канцы службы святар чытаў імёны нябожчыкаў і маліўся за здароўе жывых. На кліpace спяваў хор, пераклікаліся званы.

Каля кожнай магілы збіраліся родзічы, а сваякоў звычайна хавалі побач. На магілу ставілі чарачку, клалі велікоднае яечка, кавалачкі пірага і скароміны са святочнага стала.

(Працяг на 6-й стар.).

## ЦЯЧЭ З КРЫНІЦЫ СВЯТАЯ ВАДЗІЦА



Здаецца, ужо ні для кога не сакрэт, што нашы людзі ў сваіх жыццёвых надзеях сёння спадзяюцца толькі на цуд. Цуд хочуць убачыць усе: ад Прэзідэнта да бабулькі-пенсіянеркі. Не ведаю, як Прэзідэнт, але і мінскія бабулькі, і маладыя мінчане, каб "адхапіць" кавалачак, дакладней, некалькі літраў цуда, ездзяць на сталічны праспект Машэрава. Менавіта тут, сярод гарадскіх гмахаў і аўтамабільнага гулу, б'е ключ з гаючай вадой, ці, як многія кажуць, -- "святой". Збіраюцца да крыніцы з усяго горада -- са слоікамі, вёдрамі, каністрамі. Вельмі часта можна бачыць цэлыя натоўпы гараджан. Побач з крыніцай пабудаваны крыж, зверху яе прыкрывае невялічкі сімвалічны купал. Справа ў тым, што калісьці тут была вёска і сапраўды стаяла Спаса-Пакроўская царква. Цяпер гэтае незвычайнае месца ўзята пад патранат праваслаўнага Брацтва ў імя Архістратыга Божага Міхаіла, і ў гэтым раёне Мінска нават ствараецца асобны прыход. У рэлігійныя святы да крыніцы з гаючай вадой прыходзіць свяшчэннік. Людзі слухаюць яго, п'юць ваду, і, магчыма, камусьці сапраўды робіцца лягчэй. Дай Божа!

(Больш падрабязна пра незвычайную крыніцу, яе вельмі цікавую гісторыю мы раскажам у адным з наступных нумароў нашай газеты).




26 красавіка -- жалобны дзень у беларускім календары. Дзевяць гадоў назад над нашай зямлёй пракацілася страшная бяда -- узарваўся адзін з блокаў Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. 70 працэнтаў выкінутых у выніку аварыі радыенуклідаў прыняў на сябе наш край. Калі ў час апошняй вайны Беларусь страціла кожнага чацвёртага, то Чарнобыль параніў кожнага пятага.

26 красавіка -- дзень памяці. Фотаздымкі, дакументы, успаміны ў кожнай газеце, спецыяльныя перадачы па радыё і тэлебачанні. У газеце "Звязда" была змешчана паэма Сяргея Законнікава "Зязюля", прысвечаная чарнобыльскай трагедыі. Урыўкі з паэмы змешчаны на 6-й стар.

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

У красавіку газеце "Голас Радзімы" споўнілася 40 гадоў. Мы пішам для вас і пра вас і, дзякуючы вашай падтрымцы, пакуль яшчэ існуем.

Будзьма разам і надалей!
20 красавіка пачалася падпіска на III квартал 1995 года.

Кошт падпіскі па Мінску:
на 1 месяц -- 3 200 рублёў;
на 3 месяцы -- 9 600 рублёў;

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

СУПРАЦЬ РЭФЕРЭНДУМУ

## ПЕРАКРЭСЛІЦЬ БЮЛЕТЭНЬ

Адбылося пашыранае пасяджэнне кансультацыйнай нарады патрыятычна-дэмакратычных сіл, у якім прымалі ўдзел прадстаўнікі АДПБ, БСП, БСДГ, НДПБ, БХДП, ПАП, Грамадскай партыі, БЗВ, ТБМ.

Удзельнікі нарады прынялі рашэнне аб аднаўленні дзейнасці Грамадскай кантрольнай камісіі [ГКК], мэта якой -- не дапусціць парушэнняў законаў падчас рэферэндуму і выбараў.

Было аднадушна адзначана, што плануемы рэферэндум можа прывесці да вялікіх затрат у сотні мільярдаў рублёў толькі на змену сімволікі.

Удзельнікі нарады прынялі зварот, у якім заклікаюць выбаршчыкаў не ўдзельнічаць у палітычных гульнях, а перакрэсліць увесь бюлетэнь рэферэндуму. Была таксама выказана заклапочанасць імкненнем выканаўчай улады сарваць выбары.

ПАДПІСАНА РАСПАРАДЖЭННЕ

## РЭЗІДЭНЦЫЯ ПРЭЗІДЭНТА

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў распараджэнне аб размяшчэнні рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы і яго служб у будынку па вуліцы К. Маркса, 38 [будынак былога ЦК КПБ]. Новаму складу Вярхоўнага Савета пасля яго абрання будзе прапанавана ўнесці змяненні ў адпаведную пастанову, прынятую дэпутатамі цяперашняга Вярхоўнага Савета.

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

## БЕСТЭРМІНОВЫ ДАГАВОР

Беларусь падтрымлівае прапанову аб наданні Дагавору аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі [ДНЯЗ] бестэрміновага характару, заявіў міністр замежных спраў рэспублікі Уладзімір Сянько на Канферэнцыі па агляду і працягу Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі.

Як вядома, у 1992 годзе тэхнічная ядзерная зброя была выведзена з тэрыторыі рэспублікі. У лютым 1993 года Беларусь ратыфікавала Дагавор аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў [СНУ] і далучылася да ДНЯЗ, стаўшы лідэрам руху за бяз'ядзерны статус сярод былых савецкіх рэспублік і першай дзяржавай у гісторыі, што адмовілася ад валодання ядзернай зброяй. 14 красавіка 1995 года з МАГАТЭ было падпісана Пагадненне аб гарантыях.

ПАМЯЦЬ




Як сімвал бясконцай памяці аб мільёнах яўрэяў, якіх знішчылі фашысты ў канцэнтрацыйных лагерах і гета ў час другой сусветнай вайны ў Еўропе, былі запалены 6 свечак на вечары-мітынгу, што адбыўся 27 красавіка ў Мінску. Былыя франтавікі, якія прайшлі па дарогах вайны ледзь ці не ўсю Еўропу, людзі, якія ратавалі яўрэйскія сем'і ва ўласных дамах, падвяргаючы рызыцы свае жыцці і жыцці сваіх дзяцей, прыйшлі на гэтую сустрэчу, каб яшчэ раз успомніць аб тых страшных днях.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Дзяржавы Ізраіль у Беларусі Эліяху Валк, выступаючы на вечарымітынгу, адзначыў, што гэта была не першая трагедыя, якую суджана было перажыць яўрэйскаму народу за ўсю гісторыю свайго існавання. Таму напярэдадні вялікага свята Перамогі пасол ад імя сваёй дзяржавы падзякаваў былым воінам Савецкай Арміі і арміі дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі за тое, што яны дапамаглі дзесяткам тысяч яўрэяў перажыць вайне лiхалецце.

НА ЗДЫМКУ: на вечары-мітынгу запалены шэсць свечак у памяць аб шасці мільёнах яўрэяў, знішчаных фашыстамі.

9 ГОД ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

## ПРАГРАМА НЕ БУДЗЕ ЗГОРНУТА

Апасенні з прычыны скарачэння ці нават згортвання праграмы ліквідацыі вынікаў катастрофы на ЧАЭС на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь развеяла прэс-канферэнцыя, што адбылася ў Нацыянальным прэсцэнтры 25 красавіка. З прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі сустрэўся міністр па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на ЧАЭС Іван Кенік.

Па паведамленню Івана Keніка, ужо з сярэдзіны бягучага года ўступае ў сілу новая пяцігадовая праграма. Цяпер у зонах з забруджваннем ад 15 да 40 кюры на квадратны кіламетр, гэта значыць там, дзе да гэтага часу рашэннем парламента якое-небудзь жыццё забаранялася, за кошт спецыяльна выдзеленых сродкаў будзе рабіцца ўсё для нармальнага здаровага існавання грамадзян.

За 9 год пасля чарнобыльскай катастрофы, адзначалі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі, атручаная радыенуклідамі зона не расшыралася. Цяпер накапленне радыенуклідаў у арганізме чалавека адбываецца больш за ўсё праз прадукты харчавання. Але калі ў грамадскім сектары -- на заводах і ў магазінах -- вядзецца старанны кантроль за якасцю прадуктаў, то ў асабістых гаспадарках людзі часцей за ўсё не хочуць самі засцерагчыся ад небяспекі. Звыш 300 лабараторый ёсць у гарадах і вёсках рэспублікі, дзе зусім бясплатна можна вызначыць якасць малака, мяса, гародніны і фруктаў, грыбоў і ягад. На жаль, сяльчане, асабліва пажылыя, не спяшаюцца ў гэтыя лабараторыі, іх дзеці вязуць нярэдка заражаныя прадукты ў горад, кормяць імі дзяцей.

АБВЯРЖЭННЕ

## ВАКОЛ "ЦЕНЯВОГА КАБІНЕТА"

"Ілжывым і правакацыйным" назваў намеснік старшыні Руху за сацыяльны прагрэс і справядлівасць [РСПС] Леанід Школьнікаў паведамленне інфармацыйнага агенцтва РІД аб стварэнні РСПС свайго "ценявога кабінета".

У інфармацыі фігуравалі прозвішчы былога прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, які быццам бы ўдастоены пасады прэм'ера "ценявога кабінета" РСПС, а таксама экс-міністра абароны Паўла Казлоўскага і некаторых іншых вядомых палітычных дзеячаў.

"Ніякага "ценявога кабінета" ствараць мы не збіраліся і не збіраемся", -- сказаў у інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАН Л. Школьнікаў.

ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН

## НАЙБОЛЬШ АДПАВЯДАЕ "МАГУТНЫ БОЖА"

Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны на сваім пасяджэнні 20 красавіка прыняла рашэнне: для Дзяржаўнага гімна "ў вышэйшай ступені падыходзіць песня М.Равенскага на верш Н.Арсенневай "Магутны Божа".

У матывіроўцы вылучэння менавіта гэтага твора, падпісанай старшынёй камісіі Нілам Гілевічам, у прыватнасці, адзначаецца:

"Пасля другой сусветнай вайны, у сярэдзіне 50-х, афіцыйным Дзяржаўным гімнам БССР была зацверджана песня Н.Сакалоўскага на словы М.Клімковіча "Мы, беларусы..." З канца 1991 года гучыць толькі музыка гэтага гімна, паколькі яго тэкст не вытрымаў праверкі часам. Многія грамадзяне, несумненна, па наіўнасці, спрабуюць ствараць гімн Рэспублікі Беларусь, спалучыўшы мелодыю Н.Сакалоўскага з новым тэкстам. Спробы гэтыя ніякага плёну даць не могуць, бо мелодыя былога гімна, хоць і выразная, і запамінальная, -- аднак таксама вытрымана ў духу таго казённага, парадна-фанфарнага аптымізму, якім вызначаўся і гімн СССР "Союз нерушимый республик свободных".

Адышла тая эпоха -- адышоў і часовы гімн нашай Бацькаўшчыны, які не адлюстроўваў запаветных дум і спадзяванняў беларускага народа".

Паколькі праведзены ў 1992--1993 гадах конкурс на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь, на думку журы, такога твора не выявіў, Камісія па адукацыі і культуры лічыць, што ў Беларусі ёсць твор, які мае поўнае права стаць Дзяржаўным гімнам Рэспублікі Беларусь. Гэта песня М.Равенскага на верш Н.Арсенневай "Магутны Божа" -- выдатны, цудоўны твор, спуханне якога ў харавым выкананні абуджае ў душы кожнага шчырага беларуса вялікае хваляванне.

У прынятай пастанове камісія папрасіла, каб Кабінет Міністраў на працягу бліжэйшых трох месяцаў забяспечыў штодзённую трансляцыю песні "Магутны Божа" па рэспубліканскім радыё. Адначасова дэпутаты вырашылі ўнесці пытанне аб новым гімне на наступную сесію Вярхоўнага Савета.

ЗАНЕПАКОЕНАСЦЬ

## ЕС СПАДЗЯЕЦЦА

Паслы акрэдытаваных у Мінску дзяржаў, якія ўваходзяць у Еўрапейскі саюз, былі прыняты намеснікам міністра замежных спраў Беларусі Пятром Бяляевым па іх просьбе.

Ад імя ўсіх членаў Еўрапейскага саюза і сваіх дзяржаў паслы выказалі занепакоенасць у сувязі з інцыдэнтамі, якія адбыліся ў беларускім парламенце.

Ад імя сваіх урадаў паслы дзяржаў -- членаў ЕС выказалі спадзяванне, што працэс развіцця дэмакратыі і свабоды на Беларусі "будзе праходзіць нармальным чынам".

З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ

## САНАТОРЫЙ "БЕЛАЯ РУСЬ" ЗАСТАНЕЦЦА ДЗЯРЖАЎНЫМ

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі санаторый "Белая Русь" у расійскім горадзе Туапсэ прызнаны прадпрыемствам, якое не падлягае раздзяржаўленню і прыватызацыі. Ва ўказе адзначаецца, што гэты комплекс неабходна выкарыстоўваць для аздараўлення і лячэння ў першую чаргу грамадзян, якія прымалі ўдзел у ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, а таксама тых, хто пакутуе ад анкалагічнай хваробы.

У ПАДАРУНАК ВУЧОНАМУ



"Дзякуй за тое, што Вы сабралі нас разам", -- з такім даравальным надпісам паднеслі шацёра маладых вучоных Фізіка-тэхнічнага інстытута Акадэміі навук рэспублікі акадэміку Станіславу Астапчыку аб'ёмную кнігу. У гэтым прэстыжным амерыканскім выданні 500 старонак прысвечаны распрацоўкам Пятра Калачына, Ігара Чабацько, Сяргея Велікевіча, Яфіма Падвойскага, Юрыя Кісялёва і Фёдара Рабава. Маладыя вучоныя займаюцца праблемай камп'ютэрнай мультыплікацыі. Імі прапанаваны новыя магчымасці ў пабудове і трансфармацыі відэаадлюстравання. Распрацоўка дазволіць ствараць больш дасканалыя відэагульні, вучэбныя праграмы, а таксама праграмы для вырашэння інжынерных і канструктарскіх задач.

НА ЗДЫМКАХ: так выглядае кніга, прысвечаная распрацоўкам беларускіх вучоных; Пётр КАЛАЧЫН, Ігар ЧАБАЦЬКО, Сяргей ВЕЛІКЕВІЧ, Яфім ПАДВОЙСКІ, Юрый КІСЯЛЁЎ, Фёдар РАБАЎ з ініцыятарам стварэння творчай групы акадэмікам Станіславам АСТАПЧЫКАМ.



ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

У БАЧЭЙКАВЕ, што ў Бешанковіцкім раёне, будзе адноўлена сядзіба слыннага роду Цеханавецкіх. Бярэцца за гэту справу Віцебскае аддзяленне Беларускага фонду Сораса. Напачатку яно прыступіла да аднаўлення ўнікальнага паркавага ансамбля. У знішчаным за гады савецкай улады Бачэйкаве мяркуецца адкрыць гісторыка-культурны цэнтр.

ЗАМЕСТ алмазаў, якія шукалі ў Рагачоўскім раёне геолагі, яны натрапілі на мінеральную ваду. Яна фантанам узнялася са свідравіны каля вёскі Балаба. Раён, відаць, багаты на мінеральныя воды, бо ў нетрах яго некалькі гадоў назад знайшлі знакамітую "Рагачоўскую", якая цяпер прадаецца ў краіне.

А ў заходняй частцы Акцябрскага раёна беларускія геолагі знайшлі радовішчы калійных солей.

НА X МІЖНАРОДНЫМ фестывалі камп'ютэрных і анімацыйных фільмаў "Імаджына-95" у Монтэ-Карла ў катэгорыі "Fiction" другое месца журы прысудзіла беларускаму мультфільму "Бар'ер". Гэта была адзіная карціна на фестывалі, паказ якой суправаджаўся апладысментамі. Аўтар фільма, ён жа рэжысёр, мастак і прадзюсер, -- Уладзімір Малышаў з Мінска.

### З ПАВЕДАМЛЕННЯЎ ФАШЫСЦКАЙ ПАЛІЦЫІ БЯСПЕКІ І СД НА АКУПІРАВАНАЙ ТЭРЫТОРЫІ СССР АБ ДЗЕЙНАСЦІ ПАРТЫЗАН У БЕЛАРУСІ N 5

*29 мая 1942 года.*

Партызанская небяспека ў Беларусі ўсё яшчэ вельмі вялікая. У пачатку красавіка партызанскай групе, што дыслацыруецца ў раёне Баранавічаў, удалося расстраляць 21 мясцовага паліцэйскага...

# ПРА ШТО РАСКАЗВАЮЦЬ ДАКУМЕНТЫ

У раёне на паўднёвы захад ад Магілёва была праведзена акцыя супраць партызан, у ходзе якой было забіта звыш 200 чалавек і захоплены вялікія трафеі.

У раёне Беразіно былы школьны інспектар у горадзе Мінску Шунейка на падставе фальшывых даных змог уладкавацца на пасаду намесніка начальніка паліцыі парадку. Сваё становішча ён выкарыстаў, каб угаварыць 32 паліцэйскіх разам са зброяй уцячы ў партызаны. Перад тым яны павінны былі ўзарваць у Беразіно вялікі склад з рускімі артылерыйскімі снарадамі. Перад ажыццяўленнем гэтага плана Шунейка і 39 паліцэйскіх былі арыштаваны.

У раёне Гомеля былі арыштаваны 8 парашутыстаў. Запас узрывчаткі і радыёстанцыя, што былі пры іх, канфіскаваны. Гэтая група мела заданне здзяйсняць дыверсіі на чыгуначнай лініі Гомель-Мінск.

У Бабруйску ўдалося ліквідаваць ствараемую партызанскую арганізацыю і арыштаваць 12 чалавек. Члены арганізацыі былі забяспечаны фальшывымі дакументамі.

### N 227

*3 ліпеня 1942 года.*

На працягу 4-х тыдняў у Беларусі былі ўчынены наступныя дыверсіі і акты сабатажу:

Спалена 2 масты. Узарваны чыгуначны мост. 13 дыверсій на чыгунцы, з іх 2 цяжкія (поўнасцю ўзарваны воінскі эшалон, што ішоў на фронт, і германскі эшалон, што вяртаўся з фронту). Прычым вялікая колькасць салдат германскай арміі загінула. Пашкоджаны 4 тэлефонныя лініі, слупы вывезены. Пашкоджаны тэлефонны кабель. Поўнасцю знішчана фабрыка, што працавала на германскую армію. Выведзены са строю малочны завод, млын узарвана ў адным месцы шаша. Спалены лесапільны завод.

У чэрвені 1942 года 17 разоў узрывалася чыгуначная лінія Смаленск--Мінск. У сярэднім кожны дзень адбываецца выбух на чыгуначных ці шасейных дарогах.

### ПАСТАНОВА ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА АБАРОНЫ N 1926 СС "АБ ЧЛЕНАХ СЯМЕЙ ЗДРАДНІКАЎ РАДЗІМЫ"

*24 чэрвеня 1942 года*

1. Устанавіць, што паўналетнія члены сямей асоб (ваеннаслужачых і грамадзянскіх), асуджаных судовымі органамі ці Асобай нарадай пры НКУС СССР да вышэйшай меры пакарання па арт. 58-1 "а" КК РСФСР і адпаведных артыкулах КК іншых рэспублік: за шпіянаж на карысць Германіі і іншых ваюючых з намі краін, за пераход на бок ворага, здраду ці садзейнічанне нямецкім акупантам, службу ў карных ці адміністрацыйных органах нямецкіх акупантаў на захопленай імі тэрыторыі і за спробу здрады Радзіме і здрадніцкія настроі падлягаюць арышту і ссылцы ў аддаленыя мясцовасці СССР на тэрмін пяць гадоў.

Членамі сям'і здрадніка Радзімы лічацца: бацька, маці, муж, жонка, сыны, дочкі, браты і сёстры, калі яны жылі сумесна са здраднікам Радзімы ці знаходзіліся на яго ўтрыманні да моманту здзяйснення злачынства ці да моманту мабілізацыі ў армію ў сувязі з пачаткам вайны.

**Народнаму камісару ўнутраных спраў СССР, генеральнаму камісару Дзяржаўнай бяспекі тав. Берыя Л.П.**

### ДАВЕДКА

*Зусім сакрэтна*

...З пачатку вайны па 10 кастрычніка 1941 года Асобымі аддзеламі НКУС і загараджальнымі атрадамі войск НКУС па ахове тылу затрымана 637 364 ваеннаслужачыя, што адсталі ад сваіх часцей і ўцяклі з фронту. З іх аператыўнымі заслонамі Асобых аддзелаў затрымана 249 969 чалавек і загараджальнымі атрадамі войск НКУС па ахове тылу -- 407 395. Асобымі аддзеламі арыштаваны 25 878 чалавек, астатнія сфарміраваны ў баявыя часці і адпраўлены на фронт. Па пастановах Асобых аддзелаў і па прыгаворах ваенных трыбуналаў расстраляна 10 201 чалавек, з іх перад строем 3 321...

**Намеснік начальніка Асобага аддзела НКУС СССР камісар дзяржаўнай бяспекі 3-га рангу Мільштэйн.**

### ДЫРЭКТЫВА ГАЛОЎНАГА КАМАНДАВАННЯ СУХАПУТНЫХ СІЛ N 004870

*16 снежня 1942 г.*

*Сакрэтна. Толькі для камандавання. Змест: барацьба з бандамі.*

Фюрэру прадстаўляюць рапарты аб тым, што асобныя служачыя вермахта, якія ўдзельнічаюць у барацьбе з бандамі, за свае дзеянні ў гэтай барацьбе прыцягваліся да адказнасці.

Фюрэр загадаў:

1. Вораг выкарыстоўвае ў бандыцкай барацьбе фанатычных, пракамуністычна выхаваных байцоў, якія не баяцца ніякага насілля. Больш чым калі-небудзь тут размова ідзе аб тым, быць ці не быць. З салдацкім рыцарствам ці з захаваннем Жэнеўскай канвенцыі гэтая барацьба весціся больш не можа.

Калі барацьба супраць банд на Усходзе, як і на Балканах, не будзе весціся крайне жорсткімі сродкамі, то ў недалёкай будучыні сіл, што маюцца ў нашым распараджэнні, не хопіць, каб справіцца з гэтай чумой.

Таму войскі маюць права і абавязаны прымяняць у гэтай барацьбе (таксама супраць жанчын і дзяцей) любыя сродкі без абмежаванняў, калі толькі яны вядуць да поспеху.

Міласэрнасць, усё роўна якога роду, з'яўляецца злачынствам супраць германскага народа і салдат-франтавікоў, якія цярпяць вынікі бандыцкіх удараў. Не можа быць ніякага спачування і літасці бандам і іх памагатым.

2. Ніводзін немец, які ўдзельнічае ў барацьбе з бандамі, не можа з-за свайго характару дзеянняў у барацьбе супраць бандаў і іх памагатых прыцягвацца да дысцыплінарнай ці ваенна-судовай адказнасці.

Камандуючыя войскамі, што выкарыстоўваюцца ў барацьбе з бандамі, адказныя за тое, каб усе афіцэры падпарадкаваных ім вайсковых часцей былі тэрмінова абвешчаны аб гэтым загадзе ў даходлівай форме, а судова-юрыдычныя інстанцыі неадкладна атрымалі звесткі аб гэтым загадзе і не зацвярджалі ніякіх спраў, якія супярэчаць гэтаму загаду.

**Начальнік галоўнага штаба ўзброеных сіл**

**Кейтэль.**

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 15—17.**

**Публікацыя падрыхтавана Ігарам КУЗНЯЦОВЫМ.**

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

# ХТО ІНСПІРАВАЎ ПАРТЫЗАНСКІ РУХ?

Напярэдадні Вялікай Перамогі дазвольце выказаць свае меркаванні, звязаныя з развіццём партызанскага руху ў Беларусі. І выклікана гэта некалькімі прычынамі.

Зараз не толькі, скажам так, эміграцкія колы, але і ў Беларусі выказваюць меркаванні аб тым, што, маўляў, партызанскі рух у значнай ступені быў інспіраваны Масквой.

Няма падстаў не пагаджацца з гэтай думкай. Безумоўна, Масква была вельмі зацікаўлена ў тым, каб стварыць у такім важным стратэгічным раёне, якім з'яўлялася Беларусь, нестабільную абстаноўку. Але некаторыя забываюць пра тое, што наша рэспубліка "являлась составной частью Советского Союза" і маскоўскае кіраўніцтва дзейнічала так, "как оно считало нужным". Дарэчы, так дзейнічаюць усе дзяржавы, зыходзячы са сваіх інтарэсаў.

Трэба пагадзіцца таксама з тым, што палітыка Масквы ў значнай ступені адпавядала настрою беларускага народа. На гэта ўказвае і Юрый Туранок у сваёй вядомай манаграфіі "Беларусь пад нямецкай акупацыяй", не гаворачы аб даследаваннях беларускіх гісторыкаў.

Ёсць такое выслоўе: "Память народа -- гэта гістарычная памяць". Сам я родам са Жлобінскага раёна, і як гісторык, і як грамадзянін заўсёды цікавіўся і цікаўлюся жыццём людзей у гады вайны. Дарэчы, мая дзіцячая памяць таксама многае захавала з таго часу.

З першых дзён акупацыі на тэрыторыі майго раёна пачаў дзейнічаць партызанскі атрад, дзе адным з кіраўнікоў быў Злыгаў Юрый Васільевіч. Я часта сустракаўся з гэтым вельмі цікавым чалавекам і шмат даведаўся аб тым, чаго не пісалі ў тыя часы. Але заўсёды ён падкрэсліваў адно: калі б не было падтрымкі (добраахвотнай) з боку насельніцтва, атрад не мог бы дзейнічаць... А дзейнічаў ён тады, калі яшчэ было невядома, на чыім баку будзе перамога. Калі я пытаў у былых партызан-аднавяскоўцаў, што вяло іх у партызаны, яны адказвалі вельмі проста: жаданне біць чужынцаў. У гэтых словах, на мой погляд, і заключаецца сэнс партызанскай барацьбы, але спрашчаць гэта не трэба. У партызанскім руху дзейнічалі больш складаныя з'явы, у якіх канцэнтраваліся палітычныя, эканамічныя, нацыянальныя фактары.

Калі ўзяць палітычны аспект, то тут "пальма первенства" ў значнай ступені належала камуністам. Яны і толькі яны стваралі баяздольныя атрады, што дзейнічалі па ўсёй тэрыторыі Беларусі, уключаючы і заходнюю частку рэспублікі, але патрэбна адзначыць: там рух не набыў такога размаху, як у цэнтральнай і ўсходняй частках. Іншымі словамі, партызанскі рух быў больш распаўсюджаны на тэрыторыі, дзе савецкая ўлада існавала з 1917 года.

Вядома, былі і такія атрады, што ўзніклі і без удзелу камуністаў, але гэта не мяняла сутнасць партызанскага руху. Яны таксама змагаліся з ворагам і ў сваёй аснове сталі на прасавецкіх пазіцыях.

Больш складанымі па сваіх мэтах былі партызанскія атрады, што змагаліся пад ідэяй стварэння самастойнай беларускай дзяржавы. Не адмаўляючы іх гераізму, трэба прызнаць: яны нагадвалі Дон Кіхота, які змагаўся з ветранымі млынамі. Гісторыкі заўсёды любяць гаварыць такія словы: "История не имеет сослагательного наклонения". Але калі нават уявіць, што перамогу атрымаў Гітлер, то, вядома, аб самастойнай Беларусі не магло быць і гаворкі. Савецкая ж улада, хоць фармальна, але прызнавала існаванне беларускай дзяржаўнасці ў складзе Савецкага Саюза. Так ці інакш, а ў той час нават пробліску не было да стварэння незалежнай Беларусі.

У гэтым сэнсе партызанскія атрады, што дзейнічалі ў заходніх раёнах Беларусі і што сталі за адраўу польскай дзяржавы ў тэрыторыяльных межах, якія існавалі да верасня 1939 года, мелі больш падстаў для рэалізацыі сваіх мэт.

Ці быў партызанскі рух у Беларусі ўсенародным? Да апошняга часу гэта была своеасаблівая аксіёма. Зараз з'яўляюцца, наколькі мне вядома, публікацыі, дзе падвяргаецца "сомнению" усталяваны стэрэатып. Давайце пагодзімся, што ў тыя часы не ўвесь народ змагаўся з ворагам. Больш таго, былі нават такія партызанскія атрады, якія амаль не вялі баявых дзеянняў, а займаліся простым разбоем і самагонаварэннем. Мая маці -- Пятруннікава Фёкла Мітрафанаўна часта ў размовах успамінала, як яе ставілі пад дулы вінтовак так званыя партызаны, патрабуючы вопратку яе мужа. Ведалі ж, што насіў мой бацька -- Емяльян Мікітавіч, які пайшоў на фронт і загінуў пад Масквой.

Але калі адкінуць гэту пену, то большасць партызан, ва ўсялякім разе ў маіх мясцінах, мужна змагаліся з чужынцамі і наносілі ім вялікія страты як у жывой сіле, так і ў тэхніцы.

(Заканчэнне на 5-й стар.).



**Помнікі славутым партызанам і воінам-вызваліцелям стаяць па ўсёй Беларусі. Напярэдадні знамянальных дат, у Дзень Перамогі і Дзень вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, сюды з'язджаюцца ветэраны вайны, каб аддаць даніну павагі тым, каго няма сёння ў жывых, каб успомніць гераічныя і нялёгкія часы барацьбы з ворагам.**

**НА ЗДЫМКУ: ветэраны вайны (злева направа) Іван ЦУБА, Мікалай ШАЎЧУК і Міхаіл ТАТУР ля помніка свайму камандзіру, легендарнаму Васілю Каржу.**

**Фота А.ВАЛЯНЦІНАВА.**

## 37 ВЫСТАЎ Мікалая ЦУДЗІКА

# З ЛЮБОЎЮ ДА РОДНАЙ ЗЯМЛІ



Калі глядзіш на карціны Міколы Цудзіка, забываецца штодзённая мітусня, некуды адыходзіць наша сумная рэчаіснасць. Вочы слепіць сонца, вабіць зеляніна лесу, ціхая вада ракі; здаецца нават, што адчуваецца водар сена і рознакаляровых палявых кветак, якіх так шмат вакол. Творы мастака зачароўваюць прастатой і натуральнасцю. Глядзіш на гэтыя краявіды, захапляешся прыгажосцю і багаццем роднага краю, і ніяк не паддаецца разуменню, чаму ж лёс людзей, якія тут жывуць, такі сумны.

Лёс Міколы Цудзіка не ёсць выключэнне: жыццё яго не вельмі мілавала. Пасля першага класа апынуўся ён у Старабарысаўскім дзіцячым доме. Потым быў яшчэ адзін -- 4-ты Барысаўскі. Скончыў аўтамеханічны тэхнікум у Мінску. Адслужыў у арміі. Было шмат вандровак па былому Саюзу з прыпынкамі ў Іркуцку і Хабараўску, хадзіў у мора рыбаком. Жыў у Беластоку і на Украіне, але думкі яго заўсёды ляцелі на Беларусь. Прыйшоў час, і ён зразумеў, што не можа жыць нідзе, акрамя "сваёй роднай зямелькі". І вярнуўся Мікола Цудзік у Беларусь.

У Мінску Мікола вучыўся ў мастацкім вучылішчы ў Альберта Малішэўскага, а пасля заканчэння адразу наладзіў некалькі персанальных выстаў. (За апошнія сем гадоў было іх у мастака 37).

-- Амаль усе мае творы, -- кажа мастак, -- вельмі блізкія і сугучныя вершам Максіма Багдановіча. Гэта мой любімы паэт. Мая душа, як і душа паэта, цягнецца да прыроды. Яго творчасць дапамагае мне пісаць карціны. Я як быццам перакладаю вершы на палатно.

Мы хадзілі па зале, і каля кожнай карціны мастак чытаў вершы Максіма Багдановіча:

Вось карціна -- вечар на Беларусі:

**"Ціха. Па мяккай траве**
**Сінявокая ноч прахадзіла..."**

А гэта "Чысты, ясны гімн вясне".

Больш за ўсё мастак любіць працаваць з тэмперай, якая, па яго ж словах, адпавядае яго характару -- маляваць хутка. Уплывае і тое, што некалі іконы таксама пісалі тэмперай. Мікола -- чалавек веруючы: напярэдадні Вялікадня ён прытрымліваецца посту, чытае Біблію.



Цяперашняя яго выстава праходзіць у Мінскім харэаграфічным вучылішчы. І гэта, падаецца, нездарма. Да дзяцей у Міколы стаўленне асобае. Ён часта з імі сустракаецца, расказвае пра жывапіс, вучыць маляваць. Зусім нядаўна ён зрабіў своеасаблівую імпрэзу, калі на вачах у дзяцей намаляваў за пару гадзін вялікую (120 х 70) карціну. У той жа час ён чытаў вершы сваіх любімых паэтаў і свае асабістыя.

-- Я тлумачу дзецям, што ўсе яны -- асобы, што ўсе непаўторныя. Мне хочацца, каб яны вызначылі для сябе, што мова наша -- лепшая ў свеце, паэзія, наогул гісторыя наша адметныя. Гэта ёсць адна з мэтаў маёй творчасці.

Зараз мастак марыць арганізаваць выставу, прысвечаную вучылішчу. Ён збіраецца намаляваць шэраг партрэтаў дзяцей, якія тут вучацца, педагогаў, салістаў балета, каб на гэты раз спалучыць разам танец і жывапіс.

Не магла застацца па-за ўвагай мастака і чарнобыльская тэма. Ён выязджаў у "зону", пасля чаго з'явіліся такія карціны, як "Памерла возера", "Партрэт пажарніка", прысвечаная ўсім ліквідатарам, якія дзевяць гадоў таму выратавалі Еўропу ад навалы; вялікі букет палявых кветак на ўскрайку зямлі на фоне неспакойнага неба -- "Усім ахвярам Чарнобыля".

Сярод твораў мастака шмат цікавых партрэтаў. Адзін з іх -- партрэт нашага суайчынніка Багдана Андрусышына (Данчыка) з яго цудоўнай усмешкай, якая свеціць на Беларусь з календара, які тут выйшаў пару гадоў таму.

Працуе мастак многа і плённа, і ўсе яго творы праняты любоўю да роднай зямлі, да Беларусі.

**...Зазвіняць жалобна крыгі,**
**І бурлівая вада**
**Снег, размоклы ў час адлігі,**
**Змые з поля без сляда.**

І спадзяецца Мікола Цудзік, што разам з брудным снегам адыдзе ад нас усё "чорнае", выпрастаюць беларусы спіну і стануць зноў моцнымі і заможнымі.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**P.S. Выстава будзе доўжыцца каля шасці месяцаў у харэаграфічным вучылішчы па вул. Прытыцкага, 35.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастак Мікола ЦУДЗІК; яго работы "Маці", "Гімн вясне".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





## ПРАПАНУЕМ ВАМ, ШАНОЎНЫЯ СЛУХАЧЫ, НАШЫЯ ПАСТАЯННЫЯ ПЕРАДАЧЫ

### Агляд тыднёвіка беларусаў у Польшчы "НІВА:

панядзелак 16.30 і аўторак 14.30.

**Эканамічны блёк-бізнес, банкі, Варшаўская Акцыянерная Біржа, курсы валютаў, эканамічнае супрацоўніцтва Польшчы і Беларусі:**

аўторак 19.00 і серада 14.30.

**Культурныя актуальнасьці -- тэатральныя прэм'еры, выставы, сустрэчы з польскімі і беларускімі мастакамі, кіно, кніжкі:**

серада 16.30 і чацвер 14.30.

**Навукова-тэхнічная перадача -- досьледы знакамітых навукоўцаў, тэхнічныя ізюмінкі, недаступнае:**

чацвер 19.00 і пятніца 14.30.

**Гутаркі Сакратара Яновіча "Ад Біблії да беларускае літаратуры":**

субота 19.00 і нядзеля 14.30.

**Рэлігійныя гутаркі айца Уладзіміра Місеюка:**

нядзелі 14.30.

**Беларускі літаратурны рух у Польшчы -- гутарка Алеся Барскага:**

нядзеля 18.00 і панядзелак 14.30.

**Усё гэта пераплеценае цікавай музыкай: гэтак класічнай, як і лёгкай.**

**Прыпамінаем наш адрас:**
**Беларуская Рэдакцыя Польскага Радыё 00-977. Варшава паштовая скрынка 46, Польшча.**

---

**"Голас Радзімы" выказвае шчырую падзяку за ахвяраванні на падтрымку выдання, якія мы атрымалі ад:**

**Міхаіла МАДОРНАГА** (Германія) -- 20 дойчмарак;
**Янкі КАЛБАСЫ** (Вялікабрытанія) -- 60 долараў;
**Янкі ДУБЧОНКА** (Вялікабрытанія) -- 70 долараў;
**Аляксандра ЛАШУКА** (Вялікабрытанія) -- 30 фунтаў стэрлінгаў;
**Монікі БАНЬКОЎСКІ-ЦЮЛІГ** (Швейцарыя) -- 100 долараў;
**М. ЛАПЦІКА** (Казахстан) -- 28 тысяч расійскіх рублёў.

# ВІТАЎТ ВЯЛІКІ, КНЯЗЬ ГАРАДЗЕНСКІ І ЎСЁЙ ЛІТВЫ



## ЛІТВА І БЕЛАРУСЬ

**Літва і Беларусь -- сястрычкі...**
**Дачушкі нёманскай зямлі.**
**Жывілі вас адны крынічкі,**
**Ад згубы пушчы зберaглі.**
**У бой вадзіў вас Каліноўскі,**
**Каб рваць няволі кайданы.**
**Загубай немцам сталі вёскі,**
**У лясах імшалых -- курганы.**
**У адну сям'ю пад родны гоман**
**Навек уз'яднаў лясны абрус.**
**Як дочак родных, бацька Нёман**
**Абняў Літву і Беларусь.**
**О, край літвінаў, край герояў!**
**Край ніў бязмежных і лугоў.**
**Край рэк люстраных і азёраў,**
**Край слаўных дочак і сыноў.**

Трэба сказаць, што сапраўды наш край, як ніякі іншы, можа ганарыцца сваімі дочкамі і сынамі як у мінулы перыяд гісторыі, так і ў сучасны. У часы Вялікага Княства Літоўскага з ліку славутых людзей асаблівай увагі заслугоўваюць нашы гарадзенскія князі: Вітаўт Вялікі, як яго называюць гісторыкі, і князь Давыд Гарадзенскі. Вітаўт, сын Кейстута, нарадзіўся ў 1350 годзе. Памёр 27 кастрычніка 1430 года. Ён умела ўзначальваў барацьбу Вялікага Княства Літоўскага супраць польскіх феадалаў, якія імкнуліся выкарыстаць Крэўскую унію 1385 года і каранацыю Ягайлы для поўнага захопу літоўскіх і беларускіх зямель. Вітаўт Вялікі праводзіў палітыку цэнтралізацыі і ўмацавання сваёй улады. Некалькі разоў рабіў захады прыняць каралеўскі тытул і карону, стаць каралём Вялікага Княства. Але перашкодай гэтаму стаў у 1399 годзе няўдалы паход Вітаўта супраць татар, які закончыўся поўным паражэннем на рацэ Ворскле. Гэта выкарыстала Польшча, каб прынізіць аўтарытэт Вітаўта.

Вітаўт значна расшырыў тэрыторыю сваёй дзяржавы. Дабіўся выхаду Вялікага Княства Літоўскага да Чорнага мора. Ён быў таленавітым палкаводцам. У Грунвальдскай бітве ўзначальваў войскі Літвы, Полацка, Віцебска, Гародні, Пінска, Ваўкавыска, Смаленска, Старадуба, Кіева. Яго войскі былі ў Грунвальдскай бітве асноўнай сілай у разгроме немцаў. Вялікае Княства Літоўскае пры Вітаўце дасягнула найбольшых памераў і магутнасці. Вітаўт працягваў справу Гедыміна і Альгерда, пашыраў межы сваёй дзяржавы. Асабліва цікавы перыяд уяўляе княжанне Вітаўта, калі ён стала жыў у Гародні. У XY -- пачатку XYI стагоддзяў у Гародні над Нёманам пабудаваў магутны абарончы замак. У канцы XYI стагоддзя ён быў рэканструяваны каралём С.Баторам і стаў беспадстаўна называцца замкам Баторага.

Замак над Нёманам, які захаваўся да нашых дзён, меў іншы выгляд. Гэта быў гатычны пяцівежавы замак з магутнымі сценамі рознай вышыні, кожная з іх таўшчынёй тры метры. Пабудаваны з камянёў -- валуноў і чырвонай цэглы. Ад горада ён аддзяляўся доўгім ярам і глыбокім ровам. Яго ўязная вежа мела пад'ёмны драўляны мост. Да крапасной сцяны, павернутай да горада, прылягаў невялікі двухпавярховы палац, у якім, відаць, у свой час са сваёй жонкай, чэляддзю і аховай жыў Вітаўт. Аб сцены гэтага магутнага замка Вітаўта крышылі свае мячы закутыя ў жалезныя панцыры крыжакі, татары і іншыя захопнікі, у тым ліку і польскі кароль Ягайла. Стары замак часта не вытрымліваў варожых асадаў, пераходзіў з рук у рукі. Так, у 1390 годзе замак не вытрымаў асады польскага войска на чале з Ягайлам, але ў 1391 годзе з дапамогай крыжакоў пад камандай праслаўленага польскім паэтам А.Міцкевічам магістра Конрада Валенрода Вітаўт замак адбівае. Але на замак навалілася новая бяда -- узнік ноччу пажар, у выніку якога ледзь не загінуў сам Вітаўт і яго жонка. Ад смерці выратавала іх сваім крыкам малпа.

Сведкай княжання Вітаўта Вялікага была і Барысаглебская царква, зараз -- Калoжа. Гэта найстарэйшы архітэктурны помнік не толькі ў Прынямонні, але і ва ўсёй Беларусі. Вітаўт пасля ўдалага паходу са сваім войскам у 1405 годзе на Пскоў захапіў у прадмесці горада, якое насіла назву Калoжа, шмат палонных і пасяліў іх каля Барысаглебскай царквы. З таго часу і Барысаглебская царква стала называцца ад гэтых палонных-калажанцаў Калoжай.

Сапраўды, царква Калoжа, як кажуць, шмат бачыла на сваім вяку, шмат перажыла. Не адзін раз яна бачыла лютых захопнікаў крыжакоў, асабліва ў 1361, 1363, 1375, 1377 гадах, якія разбуралі горад і яе. Усё гэта натхніла мяне на напісанне аб ёй верша.

## КАЛОЖА

**Апошнія блікі рахманага дня**
**За вёску лясную Ласосны запалі.**
**На неба ўсплыў месяц, лягла цішыня,**
**Заслаўшы сівымі абрусамі далі.**
**І чутна, як ціха, пяшчотна вада**
**Цалуе ля замка сівыя граніты.**
**На кручы -- Калoжа ў задуме, адна**
**Маячыць, бы прывід, смугою спавіты.**
**Начамі ёй сняцца мінулыя дні --**
**Прад ёю крыжакаў драпежныя зграі.**
**Мячы, бы маланкі, палаюць агні --**
**Лютуе захопнік ў Прынёманскім краі.**
**І бачыць, як лютых прыблудаў вядуць**
**Бялявыя воі на конях буланых.**
**І чуе, як трубы Гародні гудуць**
**У знак перамогі над госцем нязваным.**

Лёс Калoжы, гэтага помніка старажытнага дойлідства, непасрэдна звязаны не толькі з імем князя Вітаўта, але і з імем другога славутага сына нашага Прынямоння -- з удзельным князем Давыдам Гарадзенскім, палкаводцам, старастам Гародні, які ў 1314 годзе разграміў крыжакоў пад Навагрудкам, у 1318 годзе ўзначаліў паход гарадзенцаў на Прусы, у 1322 годзе дапамог Пскову ў барацьбе з Лівонскім ордэнам, арганізаваў паход на Мазовію, потым -- на Брандэнбург. У апошнім паходзе па-здрадніцку быў забіты мазавецкім рыцарам Андрцем. Да сённяшняга часу сярод людзей жыве легенда, што цела забітага Давыда Гарадзецкага яго воіны на шчытах прынеслі да Гародні і пахавалі каля Калoжы. Над магілай насыпалі курган, але ён да гэтага часу не захаваўся.

Легенду пра князя Давыда Гарадзенскага можна было б выкарыстаць так, як выкарыстоўваюць падобныя легенды ў суседняй Літве. Неабходна абнавіць каля Калoжы курган, у якім пахаваны Давыд Гарадзенскі. На ім паставіць мемарыяльны знак. Гэтым мы больш зацікавім наведвальнікаў, экскурсантаў нашай Гародняй, самой Калoжай, яе гісторыяй, легендай. Прыцягнем увагу турыстаў з далёкага замежжа да нашай краіны.

Непасрэдна з перыядам княжання Вітаўта Вялікага ў Гародні звязаны быў і другі архітэктурны помнік дойлідства. Гэта касцёл, які называўся "Фара Вітаўта", фундатарам якога быў сам Вітаўт. Стаяў ён у пачатку вуліцы Замкавай, побач плошчы. Можна меркаваць, што Вітаўт са сваёй жонкай наведваў яго. Першыя ўспаміны аб ім адносяцца да 1384 года. Да нашых дзён гэты касцёл не захаваўся. Па распараджэнню партыйных органаў "Фара Вітаўта" ноччу была замініравана і ўзарвана, калі людзі яшчэ спалі. Ад яе засталося пустое месца і сляды фундамента.

**НА ЗДЫМКУ: Вітаўт ВЯЛІКІ. Скульптура літоўца Іпалітаса УШКУРНІСА.**

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ХТО ІНСПІРАВАЎ ПАРТЫЗАНСКІ РУХ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

І гэта вельмі добра памятаюць і сёння мае землякі. Ды што гаварыць, такое можна пачуць і зараз і на Гомельшчыне, і ў іншых мясцінах Беларусі.

Добрую памяць аб сабе пакінулі сярод маіх землякоў тыя партызанскія групы, што былі накіраваны з Масквы. І ў першую чаргу гэта было звязана з тым, што яны (партызаны) былі вельмі карэктнымі і чулымі людзьмі. Больш таго, "маскоўскія партызаны" не дазвалялі, напрыклад, без патрэбы забіць некалькі немцаў у вёсцы, бо добра ведалі, якая кара насцігала мірных жыхароў.

Як вядома, савецкая ўлада асабліва да вайны ставілася да царквы і свяшчэннікаў непрыязна. У маёй вёсцы Пірэвічы з 1903 года стаіць мураваная царква. У часе барацьбы з рэлігіяй яна была ператворана ў збожжавы склад, а калі прыйшлі немцы, то ў ёй зноў пачалася царкоўная служба. І свяшчэннаслужыцель, які сядзеў у савецкай турме, стаў своеасаблівым памочнікам партызан. Не ведаю, як аб гэтым стала вядома немцам, але яны расстралялі яго, і ён быў пахаваны людзьмі на царкоўным двары.

А колькі было партызанскіх сувязных, якія карысталіся дапамогай мясцовых жыхароў. Вядома і другое: колькі людзей служыла ў немцаў. Яны таксама былі звязаны ці з партызанамі, ці з падпольшчыкамі і сваёй інфармацыяй дапамагалі ім.

Калі ўсё падсумаваць, то можна з упэўненасцю сказаць: сапраўды ў Беларусі быў усенародны партызанскі рух, які "приближал День Победы".

Вытокі партызанскага руху ў Беларусі. Трэба прызнаць, што большасць народа, і ў першую чаргу моладзь, прыязна ставілася да савецкай улады і камуністычная ідэалогія "пронизала все общество". Зыходзячы з гэтага, можна сказаць, што барацьба вялася ў значнай ступені на ідэалагічных прынцыпах.

Важным фактарам было і тое, што беларусы на сваім вопыце бачылі, які новы парадак неслі захопнікі. Маім аднавяскоўцам не было патрэбы ехаць куды-небудзь, каб пабачыць, што вытвараюць гітлераўцы. На станцыі Салтанаўка, што ўваходзіць у склад нашага сельсавета, быў канцлагер. Туды ішлі жанчыны, якія шукалі сваіх сыноў, мужоў і бачылі здзекі з палонных чырвонаармейцаў... Лепшай агітацыі не трэба было, мужчынская палавіна, якая магла насіць зброю і не паддалася нямецкай агітацыі, што называецца, навастрыла вушы...

Здаецца, такі нязначны факт, але ён красамоўна сведчыць аб тым, як адносіліся немцы да нашых людзей. Летам, асабліва гэта было бачна ў 1941 годзе, немцы мыюцца каля студні і, не зважаючы ні на што, ходзяць голымі, як маці нарадзіла. Гэта выклікала абурэнне ў жыхароў і ў першую чаргу ў жанчын.

Безумоўна, свой уклад унеслі так званыя "ўсходнікі". Гэта былі былыя камандзіры і байцы Чырвонай Арміі, якія засталіся на акупіраванай тэрыторыі. Яны былі дысцыплінаваныя і добра арганізаваныя, і варта было немцам праявіць да іх цікавасць, як тыя адразу пайшлі ў лес, "благо, были уже партизанские отряды".

Можна знайсці яшчэ шмат доказаў, але справа не ў тым. Мы павінны пагадзіцца, што партызанскі рух на Беларусі быў вельмі значны і што ён быў накіраваны на вызваленне сваёй радзімы, якая бачылася ў складзе Савецкага Саюза.

Але мы павінны пагадзіцца яшчэ і з тым, што настаў час "всенародного прощения". Розны па сваіх мэтах партызанскі рух на Беларусі ва ўсякім разе быў накіраваны на тое, каб наш народ жыў свабодна і не быў фізічна знішчаны.

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**

Манчагорск,
Мурманская вобласць.

# ХРОНІКА МАБ

### ЛІСТ АХОЛА-ВАЛО

На адрас Міжнароднага камітэта беларусістаў прыйшоў ліст з г.Хяменліна (Фінляндыя) ад Александэры Ахола-Вало. Вядомы мастак, які ў 20-я гады працаваў у Мінску і Віцебску, афармляў многія беларускія кніжкі, паведамляе, што ён выступіць на Міжнародным кангрэсе беларусістаў з дакладам аб створанай ім навукова-педагагічнай сістэме -- эвахамалогіі, якая набывае папулярнасць у Скандынавіі. Ахола-Вало выказаў жаданне арганізаваць у Цэнтры імя Скарыны, у тым будынку Інбелкульта, дзе ён калісьці працаваў, выставу сваіх твораў.

У лісце паведамляецца таксама, што беларуская даследчыца Людміла Налівайка рыхтуе да выдання альбом твораў Ахола-Вало, у тым ліку і тых, што паўсталі ў беларускі перыяд яго творчасці. Расходы на выданне бярэ на сябе сам мастак.

### АЛЁНА ВУЧЫЦЦА Ў ТРЫЕСЦЕ

Пры пасрэдніцтве МАБ вясной мінулага года быў абвешчаны конкурс на вучобу ў сістэме Сусветных каледжаў. Пераможцай аказалася Алёна Новік, вучаніца Беларускага гуманітарнага ліцэя (Мінск). Восенню яна паехала ў Трыест (Італія).

І вось з Трыеста, ад дырэктара каледжа, на імя камітэта МАБ і на імя бацькоў Алёны прыйшоў ліст. У ім прыведзены ацэнкі выкладчыкаў англійскай, нямецкай і італьянскай моваў, эканомікі, экалогіі і іншых прадметаў: "Вельмі прыемна мець такога студэнта ў каледжы" (Х.Раймонт), "Алёна выдатна пачала вывучаць італьянскую мову... Яна атрымоўвае вельмі добрыя паказчыкі пры тэставанні" (В.Пейс), "Яе ўласныя вершы, напісаныя на беларускай і англійскай мовах, сведчаць пра пачуццёвасць і талент" (Ф.Раймонд). Акрамя ўсяго іншага Новік удзельнічае ў сацыяльнай службе -- штотыднёва наведвае Дом састарэлых горада Аўрысіна. "Я з увагай буду сачыць за яе прагрэсам", -- каменціруе выказванні дырэктар каледжа. Ён запрасіў дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя Уладзіміра Коласа наведаць Трыест, прыняць там удзел у навуковай канферэнцыі.

Паколькі першы "блін" не выпаў "камяком", кіраўніцтва Сусветных каледжаў прапанавала правесці новы конкурс -- на гэты раз на вучобу ў Нарвегіі. Туды ж змогуць паехаць на працу і беларускія настаўнікі (вядома, пры выдатным веданні англійскай мовы).

### ЗАРЭГІСТРАВАНЫ ФОНД

Восенню мінулага года МАБ выступіла ініцыятарам стварэння Міжнароднага фонду імя Іосіфа Гашкевіча, першага консула Расіі ў Японіі, беларуса па паходжанню. Устаноўчы сход фонду адбыўся восенню мінулага года ў Астраўцы, дзе пахаваны Гашкевіч і дзе яму пастаўлены бюст.

Днямі Міністэрства юстыцыі Беларусі выдала пасведчанне аб рэгістрацыі фонду яго прэзідэнту -- загадчыцы аддзела культуры Астравецкага райвыканкома Дануце Чарнышэвіч і віцэ-прэзідэнтам -- старшыні калгаса ў в.Малі, дзе жыў Гашкевіч, Чаславу Рынкечу і старшыні Згуртавання прадпрымальнікаў Беларусі Мікалаю Люцко. У той жа дзень яны наведалі часовага паверанага Японіі ў Беларусі спадара Акірэ Татэяма, які абяцаў падтрымку фонду.

Адной з першых значных культурных акцый новага фонду будуць Першыя раённыя краязнаўчыя чытанні імя Іосіфа Гашкевіча, якія пройдуць у Астраўцы 20--21 мая, адразу ж пасля Міжнароднага кангрэса беларусістаў. У ім прымуць удзел і японскія навукоўцы.

**Алеся БЕЛАВУСАВА.**

Сяргей ЗАКОННІКАЎ

# ЗЯЗЮЛЯ

**(ФРАГМЕНТЫ З ПАЭМЫ)**

*Васілю БЫКАВУ*

## НА БЕРАЗЕ ТЫМ

На беразе тым, што заўсёды
мне сніцца,
Куды з ціхім жалем гляджу
праз гады,
Я сеў на замшэлы валун
ля крыніцы,
Як вока, паўнюткай жывое вады.

Нічога яшчэ не набыў
і не страціў,
Абмацвае далеч і позірк, і слых,
А ў свеце, нібы перад святам
у хаце,
Так чыста-ўрачыста,
што стойваю дых.

І сонца, як маці, цалуе
ў макушку,
І вецер, як бацька, кудлачыць
віхры...
А я моўчкі слухаю вешчую
птушку --
Кувае зязюля ў далёкім бары.

Куванне яе дзверы ў храм
расхінае,
Дзе трэба ў парозе прыстоіць
спярша.
Якая мне выпадзе
доля зямная! --
Прад тайнай прароцтва нямее
душа.

Над берагам тым, што трава
спавівае,
Аблокі Ушаччыны ў вечнасць
ляцяць...
Кувае зязюля мая баравая --
Заведзены Богам гадзіннік
жыцця.

## У ЗОНЕ

У бары зязюля кукуе,
Ніхто зязюлю не чуе...
Прыйшла бяда на ўсе часы.
Трава залетавала без касы...
Поле без колаcа...
Хаты без людзей...
Печы без агню...
Калодзежы без вады...
Палыном зараслі сляды.
Вось тут і ўспомніш пра Бога,
Глянуўшы ў вочы бяды...
Не курыць, не пыліць дарога,
Дарога -- у нікуды.

## МЫ

Вецер -- з Усходу,
вецер -- з Захаду...
А беларусы чакаюць пагоду.

Дасюль мы лічым сябе народам,
У жылах маючы рабскую кроў.
Няволі пуга зрабіла збродам
Нашчадкаў воінаў і плугароў.

Усё пры нас, здаецца, --
не зломкі,
Але не спяшаем стаць на крыло.
А, можа, хтось падсцеліць
саломкі,
Каб падаць у прорву ямчэй
было!

Пра вечнасць думаецца
з узростам;
Што нашыя жыцці ёй дадалі!
Бо ўсё канчаецца вельмі
проста --
Чатыры дошкі і сажань зямлі.

З пратухлай зоны дасюль
не выйшлі,
Плыве над Айчынаю пах турмы.
А што прызначыў нам
Усявышні --
Ніколі тое не ўведаем мы.

Вецер -- з Усходу,
вецер --з Захаду...
А беларусы чакаюць пагоду.
І ні роду, ні плоду,
Як той камень у воду...

## ГНЯЗДО

Хоць вякі ў турботах прамінулі,
Ды дарэмна -- знаку не відаць...
Беларусь -- гаротная зязюля,
Як і ў той, няма ў цябе гнязда.

Ты суседзям дзетак падкладала,
Выраслалі -- ведаў свет пра іх!
А сама пад крылы захінала
Пустадомкаў свойскіх і чужых.

І яны тутэйшыя нібыта,
Ды даўно плююць Айчыне
ў твар,
Бо для іх наш край з усім
набыткам --
Сытая кармушка і тавар.

Кожнаму прарабу выраджэння
Не патрэбен Адраджэння гмах.
Ціснуцца ў зацятым ачмурэнні
Ад свайго пад нейчы цёплы дах.

Жабракоў чужына не прытуліць.
Сэнс разумны цвёрда кажа: "До!"
Беларусь -- бяздомная зязюля,
Трэба віць табе сваё гняздо.

## КРЫЖ

Мова дадзена Богам,
Слова было найперш...
Прэч ад мяне, знямога!
Духам не падай, верш!

Вядуць да крыжа і радкі, і строфы,
Іду за імі і я -- на Галгофу.

Шлях знаёмы, не новы...
Грукаюць малаткі.
І ў дзяржаўную мову
Можна загнаць цвікі.

Толькі ўсё ж перад гэтым
Трэба думаць, народ,
Каб не стаць для планеты
Пудзілам у гарод.

На герастрацкай славе
Высака не ўзляціш,
А на сабе паставіш
Самы апошні крыж.

## НА БЕРАЗЕ ГЭТЫМ

На беразе тым,
дзе туман васільковы
Калышацца ў жыцце
яшчэ маладым,
Былі і сумленне,
і шчырыя словы...
Усё засталося на беразе тым.

На беразе гэтым --
часіна распаду.
Зямлю запанілі зноў чужакі --
Палоній і ліцій, рутэній і радый
Смяротны свой баль
будуць правіць вякі.
На беразе гэтым --
спрадвечнае гора,
Прычына бясконцых,
нязлічаных страт.
Пад плёткаю рабства не сёння,
не ўчора
Душы беларускай
пачаўся распад.
І доўжыцца, доўжыцца
гнюснае ліха,
А зараз стаілася ў новым рыўку:
Манкуртства і здрада,
нянавісць і пыха,
Як змеі, спляліся
ў пачварным клубку.

Трывожнаму сэрцу
да сконy нудзіцца
Над доляй Айчыны балеснай
маёй...
На беразе тым шчасце меў
нарадзіцца,
На беразе гэтым я стану зямлёй.

А покуль ёсць сілы --
усё я трываю,
І верую ў розум,
у вечны працяг...
Кувай жа, зязюля мая баравая, --
Заведзены Богам
гадзіннік жыцця.

# МАЕ ДЗЯДЫ І РАДАЎНІЦЫ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Пасля службы ў капліцы выходзілі святар, дзяк, прыслужнік, невялічкі хор, з кадзіла ўзвіваўся пахкі сіняваты дымок ладану. Яны ішлі ад магілы да магілы, кадзілі, чыталі памінальныя малітвы, спявалі жалобныя псалмы.

Потым радня садзілася вакол магілы, раскладалі прыпасы, частаваліся, што Бог паслаў, гаманілі з суседзямі, ператтрасалі надзённыя клопаты, нібы жывых, успаміналі нябожчыкаў: які быў рабоцька Парамон, якая ткалля Аксення, а якія боты выштукоўваў Мікалай. Разыходзіліся надвячоркам: вярталіся да сённяшніх і заўтрашніх клопатаў, бо ніхто не ведаў, калі ён спатрэбіцца Богу на тым свеце. Так было. А вось у савецкую "слабоду" ў царкву на Радаўніцу, на Вадохрышча, Спаса ці Макавея, на Каляды прыбраць ёлку або пайсці са звяздою забаранялася пад страхам звальнення, выключэння з партыі, камсамола, інстытута, школы, з пасады нават прыбіральшчыцы, хаваць па рэлігійным звычаі родных лічылася вялікім злачынствам, такі чалавек да пенсіі станавіўся ізгоем.

Я ніколі не быў рэлігійным фанатыкам. У дзяцінстве гавеў і хадзіў да споведзі, памагаў званару, сябраваў з паповічамі. А ў студэнцкія гады па наіўнасці спрабаваў нават пераканаць нашага святара Стаўровіча, што "Бога няма", а ён мяне далікатна-здзекліва заганяў у кут цытатамі з Энгельса, Канта, Феербаха. Набожным не стаў я і ў старасці, хоць часта хаджу ў царкву паслухаць духоўны хор, урачыстае набажэнства, радуюся, што засяроджана моліцца шмат моладзі і дзяцей.

Высакародная рэлігія, абрады, набажэнствы, споведзі, абяцанні пры шлюбе, само паняцце і слова "грэх" былі самым неабходным і надзейным маральным кодэксам сумленнасці, дабраты, спагады, павагі і пашаны да чалавека і ўсяго жывога, любові і ўмення дараваць, працавітасці, шчырасці, шчодрасці і беражлівасці. За семнаццаць гадоў, пражытых дома, я не памятаю выпадку забойства, рабунку, крадзяжу, ашуканства, развалу сем'яў. Так было. А цяпер?! Божа мой, куды ж ты глядзіш і як церпіш? Айцец нябесны, што сталася з Тваімі чадамі? Хто ж вінаваты?

Маладыя лічаць, што так было спрадвек, а ў каго ёсць з чым параўноўваць, апаноўвае жах, і толькі ў затуманенай памяці часам мільгане слабенькі агеньчык лампадкі перад абразамі, таемная вячэра на Дзяды, смак сыты, пах чыстага воску і ладану.

Усё гэта здаецца незваротным. Таму і пішу, каб хоць на паперы засталася драбніца тае чыстай святой праўды, што дала мне душу і сумленне, а значыць -- бяду і нястачы. І найвялікшае маральнае багацце.

## ПАКАЯННЕ

Зімою 1935 года мая маці пусціла заначаваць хворую на тыфус жанчыну. Тая ачуняла, а саракавасьмігадовая мама памерла. Па волі радні яе хавалі па хрысціянскім звычаі. Я быў у хаце, калі яе адпявалі, а праводзіць на клады не адважыўся: баяўся, каб не выгналі з інстытута і з "Чырвонкі". Я ў рэдакцыі падзарабляў нейкую злыбеду да стыпендыі. Калі рушыла з хаты працэсія, зазванілі царкоўныя званы, я з маладою настаўніцаю Нінаю Войтка нацянькі, грузаючы з сумёта ў сумёт, каб ніхто не бачыў, выправіўся на клады. Даносчыкаў хапала і тады.

Мы стаялі каля свежай магілы. Мяне апаноўваў жах, што мёрзлыя камякі зямлі назаўсёды ўкрыюць маю маму, а я застаюся на свеце адзін, усім чужы і непатрэбны. Пакуль жыве маці, нават ссівелы сын адчувае сябе маладзейшым, а мяне ў той страшны дзень нібыта прыціснула дачасная старасць. Я калаціўся і не мог стрымаць слёз, іх уцірала і суцяшала мяне Ніна. Яе расстралялі фашысты, паўміралі яе родныя, і толькі ў маёй памяці яна будзе жыць да апошняй хвіліны.

Паміж агародаў і заінелых кустоў неслі дамавіну, па цаліку прабіралася каля сотні маміных равесніц, радні, суседзяў і знаёмых. Над мястэчкам не сціхаў пахавальны звон. Я трымаўся за шурпаты ствол разгалістай хвоі. Састарэлая, яна стаіць там і цяпер. За руку трымала Ніна. Рызыкавала і яна. Відаць, у Глуску тады якраз не было "стукачоў", і ўсё абышлося. Затое пазней яе брат Міша, выдатны педагог, загадчык навучальнай часткі нашай школы, за тое, што з папом пахаваў маці, надоўга стаў беспрацоўны і да самай пенсіі ўжо новыя начальнікі не ведалі, за што, і ўсё ж кідалі яго з школкі ў школку самых глухіх вёсак.

Ад таго дня мінула амаль шэсць дзесяцігоддзяў. Я ледзь не ў два разы перажыў сваю маці. Вось пішу (не ведаю, дзеля каго), а слёзы самі сабою цякуць па глыбокіх маршчынах ад жалю, болю, сораму перад сваім юнацкім маладушшам, ад крыўды, што дрыжаў перад пашчаю страшнага дракона ў блакітнай фуражцы з чырвоным аколышам.

Часам, як вялікі грэшнік, думаю, каб мама дажыла да 19 кастрычніка 1936 года, калі мяне ні за што гналі дваццацігадоваю цярноваю дарогай на Галгофу, наўрад ці вытрымала б яе збалелае сэрца, што яе сын -- "вораг народа", а народ жа і яна, выходзіць, і яе вораг.

У вайну на глускія клады падалі бомбы. На месцы многіх магіл зеўралі глыбокія варонкі. Праз дваццаць гадоў з колішнімі суседкамі мы знайшлі прыкладна тое месца каля абімшэлай хвоі, дзе пахавалі маці. Я там паставіў помнічак з адзіным на ўсе клады надпісам па-беларуску. Кожную восень езджу туды, каб павініцца за ўсе грахі і за страх у апошнюю хвіліну развітання з ёю. Добрыя мае землякі на Радаўніцы даглядаюць магілу Ганны Грахоўскай, як і сваіх родных. Я не заўсёды ведаю, каму дзякаваць, але дзякую ўсім, хто яшчэ памятае яе і мяне.

У кожны прыезд абыходжу амаль усе клады, спыняюся каля помнікаў ледзь не ўсіх сваіх равеснікаў і колішніх аднакласнікаў, што засталіся тут назаўсёды. На долю кожнага і кожнай выпалі горы гора. Такі лёс майго пакалення.

З павялічанага партрэта яшчэ ў дзявочым узросце на мяне пазірае мама. І столькі суму, тугі і дакору ў яе поглядзе. Адчуваю сябе вінаватым базліўцам у тым няспелым узросце, бо ўсё адно быў ні за што пакараны. Часам думаю: няўжо маці не пайшла б за маёю труною? Пайшла б, ахвяруючы ўсім. Калі, праўда, ёсць той свет, на каленях буду ў мамы прасіць даравання.

Цяпер, на апошняй мяжы, часта пераварочваю ў памяці свае грахі, пралікі і памылкі, думаю: а што было б, каб выключылі з інстытута, выгналі з "Чырвонкі", забаранілі друкавацца? Вярнуўся б у свой беладрэўны цэх да педальнае пілы, не было б падставы залічваць у "нацдэмы", саджаць, год петаваць на допытах, гнаць у лагер і ў вечную ссылку, значыць, у першы дзень трапіў бы на фронт. Ведаючы сваё "шчасце", праз тыдзень склаў бы галаву, бо ў бяду заўжды трапляю першы, з бяды вылузваюся апошні. Лічу сябе недалужным няўдачнікам, але ці не даўняя матчына любоў і Боская ласка давялі мяне па цернях да старэчага ўзросту.

Вось і думай цяпер, дзе памыляўся сотні разоў, за што папракалі і бэсцілі, а дзе і як засцярогся ад пагібелі і бясследнага знікнення. У юнацтве жыў марамі пра шчасце, у сталасці -- чапляўся, каб выжыць, у старасці застаецца адно -- успамінаць, назад пракручваць бясконцую плёнку свайго стракатага існавання, бо жыць, як жывуць шчаслівыя людзі, не давялося.

На Дзяды, калі заснуць усе сямейнікі, апоўначы я запальваю свечку, углядаюся ў начны змрок, і нібы ажываюць такія знаёмыя вочы і абліччы незабыўных сяброў -- лепшага друга Алеся Розны, засуджанага ў Унжлагу на смерць за "вальнадумства" па даносу стукача, паэта, прынцыповага і няскоранага беларуса Сяргея Ракіты, чароўнай інтэлігенткі Соф'і Іванаўны Эндэн, манашкі Лізы Мудраковай,.. бачу грузінскі і малдаўскі этапы, эшалон "акружэнцаў" з Калінінскага фронту, амаль цалкам адпраўленых з біркамі на нагах за "конбазу". Іх па-зладзейску таемна вывозілі ноччу д'яблы смерці пад блатную малітву: "И никто не узнает, где могилка моя".

І тут, на так званай волі, я страціў нямала сяброў, блізкіх і дарагіх сэрцу людзей, проста знаёмых, выдатных сыноў нашай зямлі. Я часта адведваю іх апошні прыстанак, самотны хаджу з могілак на могілкі, спыняюся каля кожнай дарагой мне магілы, часам прыношу палявыя кветкі і кладу на халодны граніт помнікаў ці на жоўты пясочак з драўлянымі пірамідкамі і парудзелымі бляшанымі "пашпартамі" нябожчыкаў: прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння і смерці.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

**(Працяг будзе).**

*ПРА БЕЛАРУСКІЯ СКАРБЫ, РАСЦЯГНУТЫЯ ПА СВЕЦЕ*

# ШТО МЫ СТРАЦІЛІ...

А ПОШНІМ ЧАСАМ усё часцей даводзіцца чуць, што нам, беларусам, засталася вялікая спадчына.

Так, сапраўды мы ўжо ведаем пра нашу архітэктурную спадчыну (7 тамоў "Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі"), пра мастацкую (5 тамоў "Гісторыі беларускага мастацтва"), пра славесную і музычна-песенную фальклорную спадчыну (30 тамоў "Беларускай народнай творчасці"), пра літаратурную (2 тамы "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры"), пра этнаграфічную ("Этнаграфія Беларусі") і інш.

Але з-за свайго геаграфічнага размяшчэння ў цэнтры Еўропы, паміж больш буйнымі дзяржавамі, якія заўжды імкнуліся далучыць Беларусь да сваіх уладанняў і часта ваеннымі дзеяннямі высвятлялі свае адносіны на яе тэрыторыі, мы страцілі большую частку нашых нацыянальных каштоўнасцей. Пакуль што не напісаны тамы пра нашу страчаную спадчыну. Урад БССР лічыў гэту справу не вартай дзяржаўнай увагі. Яе рабоча-сялянскаму электарату старажытныя каштоўнасці ўяўляліся буржуазным блюзнерствам. Гэтакія ж адносіны да праблемы вяртання былі і ва ўрада Кебіча. Нічога не змянілася і цяпер. Навуковымі доследамі ў справе вяртання займаецца кучка энтузіястаў, згуртаваных пры Беларускім фондзе культуры на грамадскіх пачатках.

А нашы суседзі на Украіне і ў Расіі даўно стварылі дзяржаўныя структуры, якія займаюцца як навуковымі доследамі (каб высветліць, куды трапілі каштоўнасці), так і практычнымі намаганнямі, каб вярнуць іх на месцы былога знаходжання. Напрыклад, усе ўрады Польшчы і Літвы (як буржуазныя, так і савецкія) займаліся гэтай справай і многае вярнулі сабе. Нашым уладам трэба было б мець на ўвазе, што вернутая спадчына мае не толькі вялізную духоўную каштоўнасць, а яшчэ і значную фінансавую. Выдаткі на фінансаванне доследаў і практычных дзеянняў акупяцца з лішкам.

Каб вярнуць страчаную нацыянальную спадчыну, і неабходна сабраць інфармацыю аб тым, што Беларусь мела калісьці, што ў ёй яшчэ засталося, а што ўжо знішчана ці вывезена ў віхуры войнаў.

Працэс накаплення каштоўнасцей у Беларусі адбываўся як і ў іншых краінах: спачатку пры храмах і манастырах, а пазней у княжацкіх палацах і маёнтках буйной і дробнай шляхты, у гарадскіх сядзібах, а з XVIII стагоддзя пры навучальных установах, гарадскіх і губернскіх музеях.

Напрыклад, у XII стагоддзі дзякуючы мецэнацкай і асветніцкай дзейнасці полацкай князёўны Ефрасінні стварылася полацкая бібліятэка ў выніку перапісвання кніг святога пісання. Яна ж заказала вядомаму ювеліру Лазару Богшу зрабіць напрастольны крыж для Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку, які стаў творам сусветнага значэння (знік у час другой сусветнай вайны). Менавіта Ефрасіння прывезла з падарожжа ў Іерусалім знакаміты абраз Маці Божай Эфескай. Але ўсё гэта мы страцілі.

У XIV--XV стагоддзях значныя каштоўнасці былі сабраны пры слуцкім Трайчанскім манастыры, які фундавалі слуцкія князі Алелькавічы (кнігі рукапісныя ў шыкоўна аздобленых срэбраных аправах з каштоўнымі каменнямі, творы культавага прызначэння -- крыжы, пацíры, абразы, адзенне з каштоўных тканін і шмат іншага). І гэта мы не захавалі.

У XVI стагоддзі пачынаюць збіраць уласныя зборы каштоўнасцей беларускія магнаты, сярод іх вылучаюцца зборы князёў Радзівілаў. У гэты час яны ўжо мелі ў Нясвіжскім палацы сістэматызаваную нумізматычную калекцыю, вялікую бібліятэку, карцінную галерэю, архіў Вялікага Княства Літоўскага, а таксама ўласны архіў.

Да XVI стагоддзя значны збор каштоўнасцей сабралі ў Слуцкім замку князі Алелькавічы.

У XVII стагоддзі князі Сапегі сабралі мастацкія і кніжныя каштоўнасці пры Ружанскім палацы, так званы "Сапежанскі збор", а Багуслаў Радзівіл скамплектаваў каштоўны бібліятэчны збор пры Слуцкім палацы, уключыўшы ў яго склад і частку бібліятэкі Алелькавічаў.

Значна пашырылася колькасць уласных збораў каштоўнасцей у XVIII стагоддзі. Сапегі перавезлі збор у свой новы палац у Дзярэчыне і стварылі там музей, карцінную галерэю і архіў.

Радзівілы ўзбагацілі свае калекцыі новымі мастацкімі творамі -- заказалі мастакам напісаць серыю жывапісных партрэтаў сваіх шматлікіх сародзічаў, вырабіць на сваіх ткацкіх мануфактурах у Нясвіжы і Карэлічах серыю габеленаў, якія адлюстроўвалі гісторыю роду Радзівілаў; дапоўнілі свае калекцыі заходнееўрапейскага шкла, фаянсу і фарфору творамі мастакоў, выраблёнымі на ўласных шкляных і фаянсавых мануфактурах у вёсках Белая, Свержань, Урэчча, Налібокі і ў іншых.

Яны ж сабралі значныя музейныя калекцыі ў сваіх маёнтках у Клецку, Капылі, Карэлічах, Цімкавічах.

Музей, бібліятэку і карцінную галерэю стварыла Полацкая езуіцкая калегія.

Уласныя музейныя, бібліятэчныя і архіўныя зборы мелі ў XVIII стагоддзі ў сваіх палацах князі Агінскія ў Слоніме, графы Антон Тызенгаўз у Гродне, Зорыч у Шклове, Іяахім Храптовіч у Шчорсах і Вішневе, шляхцічы Я. Стравінскі ў маёнтку Накрышкі (каля Навагрудка), Слізень у маёнтку Бортнікі таксама каля Навагрудка. Сабралі калекцыі мастацтва і іншыя шляхцічы.

Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай на працягу 1772--1795 гадоў, у склад якой Беларусь была ўключана як Вялікае Княства Літоўскае, самыя значныя каштоўнасці ад нас няспынна вывозіліся ў Расію пры розных абставінах. І гэты працэс працягваўся больш чым дзвесце гадоў, аж да распаду СССР.

У першай палове XIX стагоддзя прыватныя зборы каштоўнасцей мелі ў сваіх палацах графы Мікалай Румянцаў у Гомелі, Канстанцін Тызенгаўз у Паставах, Тышкевічы ў Лагойску.

Музейныя калекцыі ў сваіх гарадскіх сядзібах у гэты ж час сабралі Дзмітро Янчыц у Прапойску, М. Гаўсман і Ю. Кабылінскі ў Мінску, князь Чацвярцінскі ў Гродне, князі Друцкія-Любецкія ў Шчучыне. Шмат музейных збораў, у тым ліку мастацкіх, кніжна-рукапісных, археалагічных і нумізматычных, сабрала беларуская шляхта ў сваіх маёнтках: Гарадзея (каля Кобрына) належала А. Урбаноўскаму, Краслаўка і Бяльмонты -- Плятарам, Дабраўляны -- А. Гюнтару, Мсціж -- І. Слізеню, Дукора -- Оштарпам, Беніца -- Швайкоўскаму, Гарадзілава -- Пузыну, Рось -- Браніцкаму, Раванічы -- Славінскаму, Паланечка -- Радзівілам, Пескі -- Пуслоўскім, Чарэя -- А. Сапегу, Лешня (каля Маладзечна) -- Саковічам і інш.

У другой палове XIX стагоддзя сабралі музейныя калекцыі графы Паскевічы ў Гомельскім палацы, Пуслоўскія -- у Косаўскім. Літаратурна-краязнаўчыя музеі былі заснаваны прыхільнікамі беларускіх старажытнасцей А. Ельскім у Замосці (каля Пухавіч), Э. Чапскім (каля чыгуначнай станцыі Койданава) і інш.

На працягу XVIII--XIX стагоддзяў на Гомельшчыне былі сабраны багатыя музейныя і архіўныя зборы Халецкімі ў маёнтках Хальч, Навасёлкі і Анопаль (раней Кропіцы) і Уняхоўскімі ў Русінавічах. На Віцебшчыне мастацкія каштоўнасці сабралі Валадковічы -- у маёнтках Чашнікі і Смальяны; Зыбер-Плятары і Рудніцкія ў маёнтку Дзедзінка; гетман Геранім Жаба -- у маёнтку Лужкі.

У маёнтках Ваньковічаў Смілавічы і Шыпяны таксама былі каштоўныя зборы, у тым ліку старажытныя архівы Агінскіх, Ваньковічаў, Манюшкаў, з якімі ў іх былі сваяцкія адносіны.

У выніку шматвяковай збіральніцкай і мецэнацкай дзейнасці беларускай шляхты ў другой палове XIX стагоддзя ўжо ўзнікла некалькі публічных музеяў у гарадах: Магілёўскі музей пры губернскім статыстычным упраўленні -- у 1867 годзе, Магілёўскі царкоўна-археалагічны музей -- у 1897 годзе, Віцебскі царкоўна-археалагічны -- у 1893 годзе, Мінскі царкоўна-археалагічны -- у 1908 годзе.

Такім чынам, да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў музеях, палацах, сядзібах, маёнтках, манастырах і храмах былі сабраны шматлікія каштоўнасці. Цяпер узнікла праблема перад нашымі навуковымі і музейнымі арганізацыямі высветліць, што мы страцілі і куды нашы каштоўнасці трапілі.

Я прапаную беглы агляд, які раскрывае толькі вяршыню айсберга, што мае назву "Страчаныя Беларуссю каштоўнасці". З майго агляду шаноўны чытач даведаецца аб трагічным лёсе каштоўнасцей Нясвіжскага замка Радзівілаў, Ружанскага і Дзярэчынскага палацаў Сапегаў, Лагойскага палаца Тышкевічаў, Гомельскага палаца Румянцавых і Паскевічаў, а таксама многіх іншых.

Пра гэта -- у наступных публікацыях.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

---

**МАСТАЧКА З ВІЦЕБСКА Ірэна МАГУЧАЯ**

# *КРЫЛАТАЯ*

Пастэль -- адна з самых тонкіх графічных тэхнік, якая, убіраючы ў сябе унікальныя асаблівасці колеру, патрабуе ад мастака віртуознага валодання малюнкам. Не вельмі пашыраная ў мастакоўскім ужытку пастэль, між тым, мае на Беларусі сваіх гарачых прыхільнікаў. Сярод іх маладая віцебская мастачка Ірэна Магучая можа смела прэтэндаваць на лаўры вышэйшай пробы.

У Мастацкім музеі Віцебска прайшла (і з небывалым поспехам) другая персанальная выстава Ірэны пад назваю "Арабеск", якая стала вядома гораду сваімі "Агнямі карнавалу". Выстава доўжылася два месяцы (замест аднаго па музейнаму рэгламенту), пабіўшы ўсе рэкорды па наведванні.

Новы цыкл з 35 пастэляў блізкі рамантызму "Агнёў", але схільнасць мастачкі да фігуратыўных рэмінісцэнцый высокай класікі набывае ў "Арабеску" новы размах і ўдасканаленне. Тут варта падкрэсліць арыгінальна ўвасоблены дыялог з вобразна-пластычнымі здабыткамі Рыма і Грэцыі, Рэнесансу і рамантызму Залатога веку Еўропы.

Крылатасць і ўзнёсласць эмацыянальнай будовы кампазіцый Ірэны Магучай вылучае яе ў кантэксце мастацкай традыцыі горада (а можа, і Беларусі ўвогуле) у асобу унікальную, адзіную ў сваім родзе. "Карнавал", "Шэсце ў белым адзенні", "Балтазар", "Самотны Арлекін", "Размова ў блакітным пакоі" -- вось некаторыя назвы яе твораў, якія самі сабою поўняцца хвалюючымі асацыяцыямі свята і надзеі.

На выставе быў шэраг партрэтаў сучаснікаў мастачкі, але ў Ірэны Магучай партрэт -- толькі нагода завабіць чалавека ў свет таемнай мары, дапамагчы яму здзейсніць самыя нечаканыя парыванні душы. З дапамогаю яе таленту можна лёгка пераўвасобіцца ў гераіню мінулых часоў, заззяць у фантастычных строях парыжанкі альбо венецыянкі, бліскуча выканаць ролю ў самым рамантычным сюжэце высокай класікі. Можа таму пасля выставы мастачку літаральна завалілі заказамі. А ці не знак гэта патрэбы нашага чалавека ў ачышчэнні і ўзвышэнні густу, вяртанні пачуццям першароднага хараства і высокай мары?

Сярод спробаў акрэсліць мастацкі напрамак творчасці Ірэны Магучай ёсць і такі: Магутная -- гэта неарамантызм!.. Але знакам рамантызму ёсць найперш шырока ўзнятыя крылы душы.

Як кожны шчыры творца, Ірэна марыць аб новых здабытках, новых выставах і, вядома ж, аб каляровым альбоме сваіх шэдэўраў. Натхнёны заклік мастачкі да крылатасці духу ў наш абяскрылены час варты падтрымкі ўсіх, хто належыць да пароды рамантыкаў, для каго чыстае памкненне душы -- найвышэйшы скарб.

**Алесь ПРУСКІ.**





**НА ЗДЫМКАХ:** мастачка Ірэна **МАГУЧАЯ** і яе твор "Садоўніца" (пастэль).

---

## У ІМЯ АДРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСІ

"Можна і на чужыне рабіць канкрэтную справу на шляху беларускага адраджэння", -- гэтыя словы прагучалі ў Доме літаратара па вуліцы Герцэна ў Маскве, дзе сабралася на традыцыйны вечар беларуская дыяспара.

У сцэнарыі сустрэчы былі прэзентацыя новых кніг, юбілей вядомага земляка, паказ кінафільма.

100-гадовы юбілей беларускага грамадскага дзеяча Аляксандра Хацкевіча суайчыннікі адзначылі разам з ягонай сям'ёй. Аляксандр Хацкевіч быў адным з тых, хто ствараў нацыянальную Акадэмію навук. У 1922 годзе быў у складзе паўнамоцнай дэлегацыі БССР, працаваў у ЦВК СССР, а ў 37-м быў закатаваны ў сталінскім ГУЛАГу.

Аляксей Каўка, доктар філалагічных навук, прадставіў дзве новыя кнігі, якія выдала "Бацькаўшчына" (маскоўскае аб'яднанне беларусаў).

Для гэтай сустрэчы спецыяльна прывезлі дакументальны фільм з Мінска. Таццяна Працько вынесла на суд гледачоў сваю стужку "БНР. Час звеставання".

"Бацькаўшчына" сабрала на чарговую сустрэчу дыяспары людзей самых розных поглядаў, прафесій і ўзростаў.

Але ж яны ўмеюць жыць у міры і трымацца адзін аднаго.







Мінск рыхтуецца да свята -- 50-годдзя Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі: фарбуюцца будынкі, кладзецца новы асфальт, над галоўнымі вуліцамі павіслі гірлянды рознакаляровых лямпачак, прыбіраецца старое лісце і смецце ў парках і скверах. Вельмі прыемна, што на ўсё гэта ў наш нялёгкі час знайшліся грошы ў гарадскіх улад. Хаця дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што многія работы па добраўпарадкаванню горада зроблены і робяцца грамадзянамі беларускай сталіцы добраахвотна і на грамадскіх пачатках. Гэта зусім натуральна: мінчане чакаюць прыезду вялікай колькасці гасцей, франтавікоў, партызан, якія ўдзельнічалі ў баях і за вызваленне іх горада, і ўсёй рэспублікі.

**НА ЗДЫМКАХ:** прыгатаванні да свята Перамогі ў Мінску.

Фота Віктара СТАВЕРА.

# ВІТАЎТ ВЯЛІКІ, КНЯЗЬ ГАРАДЗЕНСКІ І ЎСЁЙ ЛІТВЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).

Вітаўт вельмі чула адносіўся да ўсіх народаў, якія жылі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, нікога не крыўдзіў. У 1388 годзе ён надаў вялікія прывілеі яўрэям, якія жылі ў Гародні. Яўрэйскія сінагогі і могілкі не абкладаліся падаткамі. Яшчэ да Вітаўта ў Вялікім Княстве Літоўскім былі пасяленні татар, але самай бліскучай эпохай для беларускіх татар з'яўляецца эпоха княжання слаўнейшага з усіх тагачасных кіраўнікоў дзяржаў у Паўночнай Еўропе князя Вітаўта. Ён зрабіў моцны ўплыў на справы рускай зямлі, Лівонскага ордэна і Залатой арды. Вітаўт, надзяліўшы татар шырокімі правамі і прывілеямі, забяспечыўшы ім будучыню, як быццам прывязаў іх да сябе і выкарыстоўваў у бітвах са сваімі ворагамі. Між татар у той час былі і славутыя, вельмі багатыя людзі, як князь Асанчук-Улан, які меў свой маёнтак Заселле з прыгоннымі сялянамі. У той час татары лічыліся выдатнымі воінамі, вызначаліся адвагай і спрытам у бітвах. Жылі ў ваколіцах і татары-казакі, якія мелі сваіх атаманаў. Вядомым татарскім атаманам быў Ясінскі Кульзіманавіч. Татары да князя Вітаўта адносіліся з вялікай пашанай, яго імя праслаўлялі ў песнях, маліліся за яго здароўе.

Вітаўт быў тройчы жанаты. Першая жонка яго была Марыя, дачка князя лукомскага і старадубскага. Другая -- Ганна Святаславаўна, князёўна смаленская. І трэцяя, якая перажыла Вітаўта, -- Юльяна, княгіня Альшэўская. Дзяцей у яго не было. У пачатку кастрычніка з усім сваім дваром пераехаў у Трокі, у свой замак, дзе ў канцы месяца ў прысутнасці Ягайлы і маскоўскага князя памёр ад злаякаснага нарыву. Пахаваны ў віленскім каталіцкім саборы Святога Станіслава. Над магілаю і зараз ёсць надмагільная пліта, а над ёю ікона Багародзіцы, прысланая Вітаўту ў 1386 годзе грэчаскім імператарам.

З дзённіка нямецкага пасла Кібурта: калі Кібурт уступіў у аўдыенц-залу Вітаўта, то яго вачам прадставіўся вельмі багата ўбраны пакой, сярод якога на ўзвышшы, пакрытым малінавым аксамітам, стаяла залатое крэсла, на якім сядзеў Вітаўт, адзеты ў жоўты камзол (камізэльку), зашпілены да самага горла залатымі гузікамі, на залатых пятліцах. На ім былі ружовыя порткі і чырвоныя скураныя боты з залатымі шпорамі. Па камізэльцы Вітаўт быў падпяразаны дарагім поясам, шытым золатам, з-за якога выглядала ручка кінжала, уся ўсыпаная дарагімі брыльянтамі, зверху камізэлькі быў накінуты кароткі каптан гранатавага колеру літоўскага пакрою. Галава яго была пакрыта капелюшом. Вітаўт добра мог гаварыць па-нямецку. Вітаўт быў даволі прыгожы мужчына, сярэдняга росту, моцнага і поўнага складу цела, твар яго быў маладжавы. Барады і вусоў не насіў. Позірк меў ветлівы, рысы якога ён атрымаў у спадчыну ад сваёй маткі Біруты.

Нямецкі пасол абрысаваў Вялікага князя Вітаўта вельмі прывабным. Са слоў пасла, Вітаўт, як і яго дзед Альгерд, не любіў ні палявання, ні шумных баляў, ні неразумных пацех. З алкагольных напіткаў амаль нічога не ўжываў. Умераны быў у харчаванні. У абыходжанні Вітаўт быў стрыманы і нават халодны. Мала смяяўся. Для свайго народа быў вельмі даступным, простым у абыходжанні. Князь быў разумным і дзейным чалавекам. За кароткі час свайго кіравання дзяржавай ён патрапіў поўнасцю наладзіць парадак, парушаны папярэднікамі, смутамі і забойствамі. Узбагаціў дзяржаўную казну. У мірны перыяд, калі не было вайны, Вітаўт увесь час праводзіў у Новых Троках, у замку на возеры Гальва, або ў Старых Троках, у сваім драўляным утульным палацы.

Памяць аб выдатным кіраўніку Вялікага Княства Літоўскага не толькі жыве ў нас, беларусаў, у Гародні над Нёманам, дзе ён доўгі час жыў і кіраваў дзяржавай, але яна яшчэ шырэй жыве ў самой карэннай Літве. Памяць аб ім будзе жыць вечна сярод літвінаў, як раней называлі нас, беларусаў, суседзі, сярод палякаў, яўрэяў, татар і іншых народаў, да якіх Вітаўт Вялікі адносіўся з вялікай пашанай, надаваў ім прывілеі, свабоду мовы і культуры.

Нядаўна нашыя самыя блізкія суседзі, літоўскія браты, перадалі нам скульптурны партрэт Вітаўта Вялікага. Гэта падарунак Літоўскага фонду культуры Гродзенскаму фонду культуры. Аўтарам скульптурнага твора з'яўляецца самадзейны літоўскі скульптар Іпалітас Ушкурніс. Свой твор ён прысвяціў нашаму гораду ў знак шчырага і даўняга сяброўства паміж літоўскім і беларускім народамі. Скульптура Вітаўта выканана са старога дуба, вышыня яе чатыры з паловай метры. Яна ўстаноўлена каля самага ўваходу ў Стары замак.

Неабходна адзначыць, што наш старажытны горад славіцца сёння сваімі выдатнымі архітэктурнымі помнікамі, а таксама і славутымі людзьмі мінулага і сучаснасці. Мэтазгодна было б, каб побач са старажытнымі творамі дойлідства на вуліцах і плошчах горада стаялі і помнікі нашым выдатным землякам, а іх светлыя вобразы былі ўвекавечаны мастацкімі сродкамі ў гіпсе, дрэве, бронзе. Аднак мы гэтага не бачым. Прайшлі юбілеі, планавалі, збіралі грошы, а помніка Кастусю Каліноўскаму ў нашым горадзе да гэтага часу няма. Тое самае атрымалася і з помнікам Максіму Багдановічу. Дзе падзеліся кіраўнікі нашай культуры? Што яны думаюць, як далей будуць жыць?..

**Апанас ЦЫХУН,**
**заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь, член Рады Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі.**

## СПОРТ

### НА "СУХУЮ"

У Ратэрдаме прайшоў жаночы міжнародны турнір па хакею на траве. Сюды былі запрошаны і спартсменкі гродзенскага "Рытма".

Нягледзячы на тое, што нашых зямлячак "экзаменавалі" мацнейшыя клубы Еўропы -- Галандыі, Германіі, Англіі і Швейцарыі, беларуская каманда атрымала пераканаўчую перамогу ў дзевяці сустрэчах. А агульная колькасць закінутых мячоў аказалася сенсацыйнай -- 24:0. Такога "сухога" ліку, здаецца, не было ні на адным турніры.

### ВА ЎСіМ БЛЯСКУ

Чэмпіёнка свету па мастацкай гімнастыцы мінчанка Ларыса Лук'яненка не змагла выступіць на першым этапе розыгрышу Кубка Еўропы з-за хваробы. Дрэнна адчувала яна сябе і ў час наступных спаборніцтваў у Маскве, дзе заняла трэцяе месца.

Трэці ж этап праходзіў у Аўстрыі. Тут ужо ні адна замежная саперніца не змагла на роўных выступіць з Ларысай Лук'яненка, якая набрала вельмі высокую суму балаў у мнагабор'і: 39,5.

Прадстаўніцы нашай рэспублікі Таццяна Агрызка і Вольга Гонтар занялі тут чацвёртае і сёмае месцы.

### ВАКОЛ ТЭНІСА

Расійскую, фінскую, латвійскую і яшчэ некалькі моцных каманд перамаглі беларускія тэнісісткі на турніры ў Іспаніі з аднолькавым лікам -- 2:1. Асабліва добра гулялі на гэтых спаборніцтвах Наталля Зверава і Таццяна Ігнацьева. Наша каманда дайшла да паўфінала, дзе ўступіла лідэрам сусветнага тэніса -- камандзе Чэхаславакіі.

Другая даволі прыемная навіна. На кортах мінскага Палаца спорту пройдзе міжнародны турнір на Кубак Дэвіса сярод мужчын. Спаборніцтвы з'яўляюцца неафіцыйным чэмпіянатам свету. Зборная Беларусі на першым этапе сустрэнецца са спартсменамі Украіны.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**ЛЕНАРТОВІЧ Антон Антонавіч** шукае сваякоў -- сёстраў сваёй маці: **ГАНЧАРЭНКА Надзею Аляксандраўну** (дзявочае прозвішча **КАЦЬКО**), **КАЦЬКО Анету (Ганну) Аляксандраўну**, **КАЦЬКО Гэлю (Галю) Аляксандраўну**, дачку Надзеі Аляксандраўны **ВОЛЬГУ**, якія пасяліліся ў горадзе Дэтройт штата Мічыган (ЗША), а таксама дзяцей дзядзькі **КАЦЬКО Мікалая Аляксандравіча**, што загінуў у штаце Нью-Йорк у 30-я гады.

Да 1939 года са сваякамі вялася перапіска.

Просьба да ўсіх, хто іх ведае, ці саміх родных паведаміць на адрас:

**Рэспубліка Беларусь, 220101, г. Мінск, праспект Ракасоўскага, д. 132, кв. 11.**
**ЛЕНАРТОВІЧУ Антону Антонавічу.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1270. Падпісана да друку 3. 5.1995 г.